# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №49 (158), 7 СНЕЖНЯ 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ



## «...ТОЕ, ШТО ЧУЛІ БЕТХОВЕН І БАХ»

Узіраючыся ў задуменныя, нейкія прасветленыя твары людзей, што прыходзілі на канцэрты падчас чарговага XXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Беларуская музычная восень", які праходзіў з 20 па 30 лістапада, ахвотна верыш у тое, што музыка ўзвышае душу і нясе яе на крылах у сферы быцця, якія звычайна закрытыя для вечна заклапочанага, занятага толькі зямнымі клопатамі чалавека, і што яна, як і ўвогуле мастацтва, ратуе свет ад разбурэння.

І на гэты раз у фестывалі ўдзельнічалі лепшыя калектывы і музыканты Беларусі — Дзяржаўныя камерны і сімфанічны аркестры Рэспублікі Беларусь, Сімфанічны аркестр Акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік і дырыжор — Міхаіл Казінец), Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Г.Цітовіча, (мастацкі кіраўнік — М.Дрынеўскі), Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р.Шырмы і многія іншыя. Былі, як заўсёды, госці — дырыжор Інга Эрнст Райль з Германіі, Артур Касперэк і Аркадзіуш Адамскі з Польшчы, салісты з Расіі... З дня ў дзень у памяшканні Белдзяржфілармоніі і Зале камернай музыкі ішлі канцэрты і сустрэчы з Яе Вялікасцю Музыкай.

У перапынках у фае ўвесь час гучалі замежныя мовы. Так, іншаземцы любяць хадзіць у нашу оперу, на канцэрты беларускіх музыкаў. Кошт білетаў, у параўнанні з замежжам, фантастычна нізкі, амаль сімвалічны, а якасць выканання не ніжэйшая, чым у праслаўленых музычных цэнтрах Еўропы. Імёны, якімі мы можам ганарыцца, — Святлана Данілюк, Юрый Гільдзюк, Алег Янчанка... Міжволі, хаця гналіся прэч гэтыя думкі як недастойныя светлага настрою, думалася пра мізэрныя заробкі артыстаў, пра цяжкі іх быт, пра спакусу, маючы пры сабе такі ўзровень майстэрства, шукаць іншае долі за межамі краіны, дзе талент заўсёды быў выпрабаваннем для душы, а цяпер попыт на яго амаль ніякі... І тут жа прыходзілі іншыя думкі — а мы, звычайныя гледачы, якія ведаюць і любяць выканаўцаў, сочаць за іх творчасцю з года ў год, радуюцца іх поспехам — хіба мы не вартыя таго, каб у шалёным, раз'ятраным жыцці час ад часу прыходзіць у светлую залу і, заплюшчыўшы вочы, аддавацца хвалі, што нясе ў высокую, недасяжную ў іншыя часы вышыню. Мы любім нашых артыстаў — і таму яны застаюцца з намі, іграюць для нас, знаходзячы ў гэтым сэнс жыцця.

Музыказнаўцы раскажуць нам, чаго не хапіла таму ці іншаму выкананню, што ўдалося таму ці іншаму артысту. Адзначаць, што ў гэтай "Музычнай восені" было ажно два першых выканання твораў на тэмы Евангелля, у прыватнасці, "Адкравення Святога Іаана" — сімфонія № 6 "Апакаліпсіс" для чытальніка, ансамбля салістаў і сімфанічнага аркестра Алега Янчанкі і Араторыя Вячаслава Кузняцова — Главы Свяшчэннага пісання для салістаў, змешанага хору, хору хлопчыкаў і сімфанічнага аркестра, і гэта сведчыць аб тым, што наша грамадства паступова набліжаецца да асэнсавання вечных для чалавецтва тэмаў, з кола якіх мы было выпалі, што мы гатовы слухаць Космас.

І таму хочацца закончыць гэтыя заўвагі аб XXI "Музычнай восені" словамі выдатнага індыйскага філосафа Шры Аўрабінда:

"Можа быць, мы ўвойдзем у свет сапраўднай Музыкі. І калі мы хаця б раз у жыцці пачуем яе — тую Музыку, тую Радасць, што спявае наверсе, — нам адкрыецца тое, што чулі Бетховен і Бах; мы будзем ведаць, што Бог існуе, таму што мы пачуем Бога. І мы не будзем гаварыць высокія словы, проста мы будзем ведаць, што Тое існуе і што выкуплены ўсе пакуты свету"...

Фота Генадзя ЖЫНКОВА

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# ХТО ХАЦЕЎ, ТОЙ УБАЧЫЎ

Гэта было чатыры гады назад. Два тыдні разам з групай беларускіх акцёраў я вандраваў па Югаславіі. Мне здавалася гэта краіна раем, дзе ў фантастычным блакіце зліваюцца мора і неба, а на схілах гор, бы падасінавікі ў зялёным імху, параскіданыя белыя дамы з чырвонымі дахамі. Я аднолькава камфортна адчуваў сябе ў Босніі і Герцагавіне, Харватыі, Чарнагорыі, Сербіі. Я праводзіў дні на пляжах і ў блуканні па цудоўных вуліцах Спліта, Цэсіна і Трагіра, Дуброўніка і Герцаг-Нові і Цітаграда, Белграда, Сараева. Югаславія перажывала эканамічны ўздым, змянілі грошы, паліцы крамаў на зайздрасць нам ламіліся ад якасных тавараў. Здаецца, нішто не сведчыла пра будучую бяду. Хіба што насцярожвала ў размовах пракамуністычнае мысленне некаторых "югаславаў". Мы ўжо з гэтым развіталіся. Вялікай розніцы паміж людзьмі не заўважаў, хоць у паветры адчуваўся знаёмы пах ідэі "старэйшага" і "малодшых братоў". І года не прайшло, як рухнула вялікая імперыя пад назвай СССР. Пацягнуліся да свята незалежнасці і дэмакратыі краіны нашага рэгіёна. Захацелі быць гаспадарамі свайго лёсу і балканскія народы. Ашаламляльна змяніліся колеры і Югаславіі. Тэлеэкран дэманстраваў нам чырвань крыві і шэрыя клубы дыма. Упэўнены, што кожны, хто хоць аднойчы пабываў на тым кавалачку зямнога шара, які меў назву СФРЮ, без пранізлівага болю не мог і не можа ўспрымаць гэтае жудаснае відовішча.

Сусветнае супольніцтва вызначылася даволі хутка ў сваіх пазіцыях адносна вайны ў Босніі: мясцовыя сербы атрымалі асуджэнне. У Беларусі зрабіць гэта цяжка: нашыя ўлады добраахвотна самі сябе паставілі ў стан інфармацыйнай блакады. Мы не маем нармалёвых сродкаў інфармацыі, нашыя журналісты за мяжой не працуюць. Усё аддадзена на водкуп тэле- і радыёканалам суседняй дзяржавы. Вось і сілкуемся высновамі крамлёўскіх салаўёў. Палітыкі ж той дзяржавы і не хаваюць сваіх "жыццёва важных" інтарэсаў на Балканах, расейскае тэлебачанне дэманструе сваю адданасць гэтым палітыкам, а публіка, у тым ліку беларуская, атрымлівае порцыю за порцыяй высноў "вялікадзяржаўных" аналітыкаў, не звяртаючы нават увагі на пастаянныя нестыкоўкі дакументальных кадраў з іх вусным аналізам.

Нарэшце мінчукі атрымалі шчаслівую магчымасць на ўласныя вочы пабачыць ужо стаўшую знакамітай ва ўсім свеце праграму дакументальных фільмаў "Сараева: жыццё пад агнём". Фільмы зроблены інтэрнацыянальнай групай кінематаграфістаў САГА, адзінай, якая пастаянна здымае ў зоне баявых дзеянняў — піша праўдзіва летапіс вайны і распаўсюджвае яго па ўсім свеце. Фонд Сораса — Беларусь, Беларуская федэрацыя "Кінаклуб", Інстытут адкрытага грамадства (Будапешт) і Міжнародны фонд фільмаў па правах чалавека з 2 па 4 снежня ў Доме літаратара далі магчымасць кожнаму, хто таго хацеў, на свае вочы пабачыць праўду пра баснійскі канфлікт і самому вырашыць: што адбываецца там і якую выснову з гэтага павінны зрабіць мы — грамадзяне нарэшце суверэннай краіны Беларусь.

Камера ў руках мужных дакументалістаў уважліва ўглядваецца не толькі ў вочы пакрыўджаных, але і тых, на чыю пазіцыю ніяк нельга стаць. Мікрафон выслухоўвае любую "праўду", нават лідэра баснійскіх сербаў Караджыча. Але гэтая "праўда" такая ж сумніўная, як і тое, што ён з гордасцю называе пароду нейкага сабакі —"серб", а "вялікі" рускі пісьменнік Лімонаў, што захапляецца дзеяннямі сербаў насуперак пазіцыі цывілізаванага свету, чамусьці лічыць слова "таполя" не сербскім, а толькі рускім. Гэтыя іранічныя кадры ўстаўлены ў кантэкст сербскіх народных спеваў, праваслаўных царкоўных абрадаў, якія распавядаюць пра гісторыю гэтага народа. Сёння ж і гэтая драматычная гісторыя, і рэлігія падпарадкаваны іншай мэце. Льецца кроў, гарыць такі цудоўны горад Сараева, полахі дыму вырываюцца з вокнаў гатэля "Holiday Inn", у якім я пражыў цудоўныя тры дні. А на гары, як Напалеон перад бітвай, тлумачыць свае планы Караджыч ("Сербскі эпас", рэжысёр Пол Паўлікоўскі).

Мароз ідзе па скуры, калі бачыш і чуеш споведзь юнака, які ў шпіталі выносіў ампутаваныя рукі і ногі знявечаных мірных жыхароў яго горада Сараева. Гаворыць даволі спакойна, як пра сваю працу, — няўжо да вайны ўжо прывыклі?.. ("Я спальваў ногі".) Пасля дэманстрацыі фільмаў я доўга размаўляў з рэжысёрам стужкі і яе героем Срданам Вулецічам. Ён, зусім юны чалавек, даводзіў мне, хоць я сам у гэтым перакананы, што справа не толькі ў мусульманах, што баснійцы — шматнацыянальны народ, але яны хочуць жыць на сваёй зямлі, самі ладзіць сваю гаспадарку, і што ён, рэжысёр, абавязаны данесці праўду свайго народа да ўсіх людзей свету.

Людзі свету, здаецца, зразумелі гэтую праўду. Яны неабыякавыя, яны пратэстуюць і заклікаюць да кампрамісаў, да цярплівасці, узаемапавагі варожых бакоў дзеля жыцця, дзеля збераження хоць бы таго, што яшчэ там, на Балканах, засталося. А ад алімпійскіх аб'ектаў Сараеўскіх зімовых гульняў ужо праз восем гадоў не засталося нічога. Фільм "Праз восем гадоў" (рэжысёр Адэмір Кенавіч) пабудаваны на ўразлівых кантрастах: свята спорту і маладосці, радасці жыцця і — руіны, стрэлы, кроў.

Праграма разнастайная, глыбокая. Мы ўбачылі (хто хацеў — той убачыў) і фільм-даследаванне прычын вайны ("Югаславія: вытокі вайны", рэжысёр Крыстаф Тальчэўскі), і глыбокую, жудасную споведзь забойцы ("Прызнанні пачвары", рэжысёры Адэмір Кенавіч і Ісмет Арнаўталіч), і двуххвілінныя хранікальныя замалёўкі жыцця горада ў асадзе ("Вуліцы пад агнём", зробленыя для канала навінаў ВВС), і музычныя кліпы, і анімацыйныя фільмы па правах чалавека ("Ворагі", вытворчасць ЗША). Зала запаўнялася бітком, кожны, вядома, зрабіў свае высновы, абыякавых не было. А падумаць у сувязі з падзеямі ў Босніі ёсць пра што і нам, у Беларусі, якая таксама стала на шлях незалежнасці. А тое, што гэта многім "саборам" не даспадобы, усе ведаюць. З экрана тэлевізара мясцовы лідэр ліберал-дэмакратаў заяўляе пра "адзіную непадзельную" ад Фінляндыі да Японіі, па радыё аж захлынаецца злосцю, даводзячы свае "вучоныя" аргументы "ін'язаўскі" прафесар (бедныя студэнты, хто вас і чаму вучыць?). Заплёўваецца нацыянальная сімволіка, святыні народа з трыбуны Вярхоўнага Савета. А ля ўваходу ў Дом літаратара, падчас прэзентацыі кінапрагляду, луналі сцягі, мной дагэтуль ніколі не бачаныя, злавеснага колеравага злучэння: белага, жоўтага, чорнага. Мне растлумачылі, што гэта "імперскія" ці "імператарскія" штандары... Чаго гэтым людзям не стае ў Беларусі? Няўжо Сібіры?..

Я глядзеў праграму, уздрыгваў ад жаху, спачуваў баснійцам і думаў яшчэ пра тры рэчы. Чамусьці ўспаміналася Сараева, тое месца, дзе ў 1914 годзе быў забіты Фердынанд. Пра Чачню. І ніяк не мог выкінуць з галавы жахлівыя сцягі, што луналі ў гэты час на ганку мінскага (!) Дома літаратара.

**Вячаслаў РАКІЦКІ**

# І ЗНОЎ — ДЖАЗ!



У лістападаўскія дні ў Мінску прайшоў фестываль джазавай музыкі. У чарговы раз яго падарыў нам Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Міхаіла Фінберга.

Калі б гэтая музыка выйшла з Белдзяржфілармоніі і загучала ў кавярнях, на вуліцах Мінска, іншых гарадоў Беларусі, яна знайшла б разуменне і прыхільнікаў сярод розных слаёў насельніцтва. Так, напэўна, у хуткім часе і будзе. З'явяцца і ў нас дзіцячыя джазавыя калектывы, падобныя да "Джаз-айленда" з Вільні, што выступіў на мінскім фэсце. Шмат апладысментаў прагучала ў адрас гасцей з Усходу — уладальнікаў Гран-пры маскоўскага музычнага тэлефестывалю "Прыступкі да Парнаса" (кіраўнік Валерый Канстанцінаў). Зноў, як і зімой на джазавым фестывалі, публіка доўга не жадала развітвацца з маладой літоўскай спявачкай Недай, якая нядаўна атрымала Гран-пры на міжнародным фэсце "Беластоцкія мальвы".

Як заўсёды, бліскуча выступаў аркестр Міхаіла Фінберга.

Фестываль адбыўся дзякуючы спонсарам.

Працяглы час садзейнічае наладжванню джазавага фэсту ягоны заснавальнік — кампанія ВІТТ (Валерый Мацулевіч). Дапамагалі ў арганізацыі музычнага свята — банк "Алімп" (Валерый Сляўка), кампанія "Эксконіма" (Эла Татарынава), мінская фірма "Хэлен-Валеры" (Алена Скрыпель), "Энергія" (Дзмітрый Шаткін) і маладзечанская "Айра" (Рыгор Зянько).

**Наталля ДАНІЛЕВІЧ**

# КВЕТКІ — ГЛЕДАЧАМ, КВЕТКІ — МАСТАКУ



У Віцебскім мастацкім музеі адкрылася выстава прац мастака Барыса Хесіна. Большасць прадстаўленых тут карцін — нацюрморты з кветкамі.

Творы Барыса Хесіна неаднаразова экспанаваліся на абласных, агульнарэспубліканскіх выставах і за межамі краіны.

*На здымку:* мастак Барыс Хесін ля сваіх твораў.

**Н.К.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ**

# У ПЕРСПЕКТЫВЕ — СІЦЫЛІЯ



Радасць на твары дзяўчынкі і яе выкладчыка: перамога на Міжнародным конкурсе акардэаністаў у італьянскім горадзе Кастальфедарда! Прыз — бронзавы бюст Паола Сапрані, заснавальніка вытворчасці акардэонаў у Італіі, засведчыў поспех юнай акардэаністкі Люды Крыўчык, яе выкладчыка Ігара Атраднава ды і ўсёй беларускай выканальніцкай школы.

Пачатак перамог беларускіх выканаўцаў-акардэаністаў на міжнародным узроўні паклаў Ігар Атраднаў — лаўрэат Міжнароднага конкурсу, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі. З 1982 года, скончыўшы Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, а потым і асістэнтуру-стажыроўку па класе прафесара М.Солапава, ён выкладае на кафедры баяна-акардэона. Званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу І.Атраднаў атрымаў у 1982 годзе на конкурсе ў г.Клінгенталі.

Бадай дзесяць гадоў назад дырэктар Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры кансерваторыі В.Рэянт запрасіў І.Атраднава весці клас. З таго часу ў ССМШ (зараз Рэспубліканскі ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі) прыйшоў поспех. Зараз можна гаварыць аб дасягненнях: Павел Неўмяржыцкі (13 гадоў) — лаўрэат міжнародных конкурсаў: 1992 г. — 2-е месца на конкурсе ў Германіі (ва ўзросце 10 гадоў, што таксама ўпершыню ў Беларусі); 1993 г. — 2-е месца на конкурсе ў Балгарыі; 1994 г. — 2-е месца на Міжнародным конкурсе імя Андрэева ў Санкт-Пецярбургу.

Ваня Каламыцаў (15 гадоў) — дыпломы Міжнародных конкурсаў у Германіі (5-е і 7-е месцы). Да конкурсу ў Балгарыі зараз рыхтуецца яго малодшы брат Аляксей.

Адзінаццацігадовая навучэнка Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Люда Крыўчык у гэтым годзе двойчы стала лаўрэатам Міжнароднага конкурсу — у г.Клінгенталь (Германія) і ў г.Кастальфедарда (Італія). Адзначу, што ў яе ўзросце перамогу на гэткіх прэстыжных конкурсах з такімі вынікамі ў Беларусі не атрымліваў ніхто. У Італіі Люда выйшла на 2-е месца з агульнай сумай балаў 97 са 100. Ад першага месца яе аддзяляў толькі адзін бал. Дарэчы, праслухоўванне другога тура адбылося праз гадзіну пасля першага. Вытрымаць такое напружанне цяжка даросламу, не тое што адзінаццацігадовай дзяўчынцы. У класе І.Атраднава ёсць яшчэ два лаўрэаты Нацыянальнага конкурсу — студэнты Акадэміі музыкі.

Да поспеху дзяўчынку прывялі намаганні добразычлівых людзей — перш за ўсё яе выкладчыка Ігара Атраднава, турботы Людзінай бабулі Веры Іосіфаўны, добрага арганізатара, спонсараў — страхавога таварыства "Кентаўр", дзякуючы якому адбылася паездка ў Германію, фірмы "Пушэ" і дабрачыннага фонду, якія фінансавалі паездку ў Італію, спадара Вінчэнта Каналі — асэсара па культуры і турызму г.Кастальфедарда.

Усё было б добра, калі б не яшчэ адна праблема — у дзяўчынкі няма інструмента. Як знайсці выйсце? Нямецкі ці італьянскі акардэон каштуе каля 4 тысяч долараў, а расійскі "Юпітэр", які не горшы за замежны, — 15 мільёнаў расійскіх рублёў. А як было б цудоўна, каб канцэрты на Сіцыліі, куды Люду запрасілі на наступны год, дзяўчынка магла сыграць на ўласным інструменце!

**Ірына ЛІЦВІН,**
**супрацоўнік упраўлення навучальных і навукова-даследчых устаноў Міністэрства культуры і друку**

# МАСТАЦТВА ЖЫВЕ Ў ХРАМЕ

Калісьці Чырвоны касцёл, што на плошчы Незалежнасці, выратавала ад знішчэння тая акалічнасць, што ягонымі часовымі гаспадарамі сталі беларускія кінематаграфісты. Даволі доўгі час ён і вядомы быў як "Дом кіно". Тут ладзіліся прагляды, выставы, семінары, канферэнцыі. Прыемна адзначыць, што пасля перадачы вернікам Чырвоны касцёл не згубіў культурніцкай функцыі. Нядаўна тут прайшоў дабрачынны канцэрт хору "Менка", створанага пры Дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Пад скляпеннямі касцёла гучала духоўная музыка. У складзе "Менкі" — выпускнікі і вучні Менскай мастацкай вучэльні.

*На здымку:* падчас канцэрта хору "Менка" ў Чырвоным касцёле.

**Наш кар.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ**

КАНФЛІКТ

# ХТО ПАКЛАПОЦІЦЦА ПРА ДРАЗДОВІЧА?

Усяляліся ў новы будынак. Былі шчаслівыя — скончылася пакутлівае ў нашых умовах будаўніцтва, у якое загадчыца аддзела культуры Глыбоцкага райвыканкама Марыя Канстанцінаўна Паляк уклала неймаверныя намаганні. Музычная школа і дзіцячая бібліятэка атрымалі светлыя, сучасныя пакоі, абсталяваць якія дапамаглі старшыні калгасаў імя Свярдлова і "Дружба" М.Пахілка і В.Пяткевіч, дырэктар ільнозавода М.Аніськовіч і іншыя. На будынкі, што вызваляліся, былі таксама вялікія планы — адкрыць філіял Дома рамёстваў, стварыць музей Я.Драздовіча — ураджэнца Глыбоччыны.

Аднак пасля наваселля старшыня Падсвільскага пассавета Б.Зянькоў патрабаваў у дырэктара музычнай школы Л.Андзілеўка ключы ад старога будынка. Тая, вядома, звярнулася да М.Паляк — аддзел культуры ўсе гады, якія ў старым будынку працавала музычная школа, быў адзіным яе руплўцам: даваў грошы на рамонты, на абсталяванне. Марыя Канстанцінаўна здзівілася — пассавет ніколі ніякіх правоў на абодва будынкі не заяўляў дый і не клапаціўся пра іх. Праўда, па Падсвіллі прайшлі чуткі, што сам старшыня перад наваселлем выказваў жаданне купіць адзін з гэтых старых дамкоў пасля яго "вызвалення", тым болей што і па сённяшняй цане каштуюць яны фантастычна танна — недзе каля 5 — 7 мільёнаў беларускіх рублёў. На ўсякі выпадак, пакуль справа дойдзе да музея, яна пасяліла ў будынку музычнай школы бібліятэкара І.Міхеенка, якая тады яшчэ была незамужняй і не мела падсвільскай прапіскі.

Тым часам пассавет усё болей катэгарычна настойваў на сваіх правах і высунуў контраргумент — усяліць у гэты будынак сям'ю з двума дзецьмі (дарэчы, бацькі таксама работнікі мастацтва, хаця жонка і працуе ў школе).

Становішча абвастрылася тым, што, усяліўшы шмат гадоў назад у абодва будынкі ўстановы культуры, Глыбоцкі райвыканкам не пакінуў ніякіх слядоў гэтага рашэння. Няма ў архівах нават намёкаў на тое, на якіх юрыдычных падставах адбылося ўсяленне. Гэта можна зразумець: у часы, калі партыя рашала ўсё, дастаткова было проста званка — і... ішлі войскі ў Афганістан, мільярды выдаваліся пад фінансаванне іншаземных кампартый... Што там два старыя будынкі ў Падсвіллі!

Цяпер жа, калі пачалі лічыць грошы, утварылася сітуацыя, калі пачынаюць выяўляцца заблытаныя вузлы супярэчнасцей. Так і ў Падсвіллі паміж загадчыцай аддзела культуры М.Паляк і старшынёй Падсвільскага пассавета Б.Зяньковым утварылася сітуацыя, якая вельмі нагадвае славуты суд Саламона, калі дзве жанчыны спрачаліся за дзіця, і кожная даводзіла, што яно належыць менавіта ёй. Марыя Канстанцінаўна лічыць, што гэтыя будынкі належаць культуры — усе дзесяць гадоў, якія яна працуе загадчыцай. І менавіта ёй даводзілася шукаць грошы на абсталяванне і рамонты. У будынках гэтых, мабыць, нават сцены ўжо новыя, таму што не раз даводзілася замяняць гнілыя бярвенні сценаў, не кажучы пра печы, страху і г.д. Фактычна толькі дзякуючы яе неверагоднай энергіі пабудаваны новы цэнтр культуры, і вельмі горкай здаецца ёй думка, што не будзе ў Падсвіллі ні музея, ні філіяла Дома рамёстваў — аднаго з тых, якія робяць па ўсёй Глыбоччыне вялікую справу адраджэння нацыянальнай душы народа.

Да таго ж, ёсць у Падсвіллі пустыя будынкі — вось ужо некалькі гадоў таму вызваліўся дом, дзе была бальніца, і пры жаданні старшыня пассавета мог бы дабіцца ад раёна, каб гэты будынак аддалі Падсвіллю. А пакуль Б.Зянькоў тэрмінова ўсяліў у адну са спрэчных будынін яслі і падаў заяву ў Глыбоцкую пракуратуру аб высяленні з другой бібліятэкара І.Міхеенка, якая, дарэчы, ужо завяла сям'ю і якой таксама трэба недзе жыць...

Славуты суд Саламона вырашыўся тады, калі цар вынес рашэнне, каб дзіця рассеклі і аддалі кожнай жанчыне палову. Родная маці тады адмовілася ад дзіцяці — ёй важна было, каб яно хаця б засталося жывым. У сітуацыі, што стварылася ў Падсвіллі, ёсць шмат іншых складанасцей. М.Паляк "баліць" тут мацней. Яна выкройвала грошы з бюджэту, часам закранаючы іншыя, чым можна, "стацці". Сёння КРУ абвінавачвае яе ў гэтым. Але ж ці сабе брала яна іх? Яе праца відавочная. Глыбоцкі раён, гаворачы казённым стылем, флагман культуры ў краіне, тут нарадзілася шмат цікавых пачынанняў, вопыт Глыбоччыны павучальны для іншых раёнаў.

Мая асабістая думка: будынкі павінны былі б застацца культуры. Вядома, ёсць чарга на кватэры — 92 чалавекі ў Падсвіллі не маюць жытла. Але Б.Зянькоў, аспрэчваючы правы аддзела культуры, піша ў "Весніку Глыбоччыны": "Абодва гэтыя будынкі — уласнасць пассавета. Таму мы і патрабуем вярнуць незаконна заняты".

Але ці быў ён заняты беззаконна? Спачатку і сам старшыня пассавета, хутчэй за ўсё, не думаў, што на будынкі ў аддзела культуры няма дакументаў. Пассавет, па сутнасці, усе доўгія гады ніякага дачынення да гэтых будынкаў не меў і не цікавіўся імі. Мабыць, толькі ўсяленне бібліятэкара падліло алею ў агонь. Да таго ж, аддаваць адзін з іх пад музей Драздовіча... Барыс Фёдаравіч лічыць, што абыдзецца Я.Драздовіч без музея ў Падсвіллі. Накладваюцца на гэтую сітуацыю і чыста жыццёвыя, пабытавыя дробязі — запрашаў І.Міхеенка ў пассавет для размовы, яна нават не зайшла, кінула: "У мяне свой начальнік — Паляк..."

Канфлікт ляжыць у многіх плоскасцях, і адна з іх — супярэчнасці паміж сённяшнімі нашымі патрэбамі і праблемамі вечнага. Барыс Фёдаравіч думае пра ўладкаванне жыхароў гарпасёлка, Марыя Канстанцінаўна дбае пра душу людзей, якія "не хлебам адзіным жывыя". Другая плоскасць — гэта тое, што нацыянальная культура многае губляе і ў чыста матэрыяльным плане — апошнім часам аддадзена нямала храмаў вернікам, а там былі бібліятэкі, дамы культуры. Ці так ужо шмат дзе можа жыхар Падсвілля далучыцца душой да здабыткаў духоўнага, ці так ужо перакормлены ён музеямі ды філармоніямі? Духоўнае жыццё правінцыі павінна быць і справай пасялковага савета.

У Ляймэне, на радзіме славутага тэнісіста Барыса Бекера, бургамістр з гонарам паказваў нам у мэрыі асобны пакой, дзе на стэндах ляжалі фотакарткі і ўзнагароды вялікага земляка. Божа збаў мяне параўноўваць мастака і тэнісіста — кожны ўносіць сваё ў сусветны прагрэс, але ж ніколі народ не будзе адчуваць сябе народам, калі не прывучыцца ганарыцца тымі, хто складае яму славу сярод іншых краін свету. Той жа Барыс Фёдаравіч апавядаў, што калі ён у нядзелю працуе на будаўніцтве свайго гаража, то абавязкова падыйдзе які-небудзь падсвілец, найчасцей на падпітку, і кіне з'едлівую рэпліку — маўляў, узводзіш тут харомміну, начальнік. "А калі я адкажу — ідзі і ты будуй, участкі ж даюцца ўсім, хто пажадае — маўчаць..." Так, наш чалавек не прывучаны асабліва працаваць, усё чакае нечага ад дзяржавы, няхай нават капейкі, абы не перапрацаваць... Аднак не ўсё яшчэ выветрылася, асабліва тут, у былой Заходняй і каля яе. Вось ужо з 30 участкаў, дадзеных людзям у апошнія пяць гадоў, 15 уладальнікаў пабудаваліся. Сёлета зноў далі 12 участкаў па 15 сотак — і, нягледзячы на велізарныя цэны, людзі зноў будуюць сабе жытло... Музей жа пабудуе і адчыніць толькі дзяржава — зноў жа, калі дзяржава гэтая ў асобе яе прадстаўнікоў уяўляе, *што* ёсць гонар народа і клопат аб вечным...

Марыя Канстанцінаўна апошнім часам хварэла. І нават пры размове ў пасялковым савеце, дзе мы сабраліся ўсе разам, нервавалася і, адчувалася, моцна перажывала. Так, усё, што робіцца ў раёне, грунтуецца ў першую чаргу на яе клопаце аб культуры, і гэта прызнаюць нават тыя, хто не раз па службовых пытаннях канфліктаваў з ёю, напрыклад, дырэктар музычнай школы Людміла Фёдараўна Андзілеўка (якая, дарэчы, піша карціны і нядаўна дэбютавала ў "ЛіМе" як эсэістка). Скончыла размову словамі: "Марыя столькі зрабіла для культуры, як ніхто", — і Марыя Баравік, паэтка і бібліятэкар, якая выхвала не адно пакаленне юных падсвільцаў на любові да роднай мовы і літаратуры.

...Пасля цяжкай размовы Барыс Фёдаравіч Зянькоў паабяцаў, што адзін будынак — той, у якім цяпер працуюць яслі, — ён гатовы аддаць райаддзелу культуры. У другім, на яго думку, можна было б зрабіць інтэрнат, дзе маглі б жыць і работнікі культуры. Але ці здзейсніць ён сваё абяцанне? Ці справу аб "незаконным усяленні" будзе вырашаць пракуратура раёна?

І хто, у рэшце рэшт, у Глыбоцкім раёне паклапоціцца, апроч такіх вось энтузіястаў, як Марыя Паляк, аб ушанаванні славутага беларуса Язэпа Драздовіча?!

**Вольга ІПАТАВА**

# НАЦЫЯНАЛІЗМ — З'ЯВА НАРМАЛЬНАЯ

26 — 27 лістапада ў Віцебску адбываўся першы з'езд нацыяналістаў. Дэлегаты сабраліся ў галерэі мастака Алеся Пушкіна. Нягледзячы на тое, што мерапрыемства планавалася як радыкальна-правая акцыя, адчувалася, што так ці інакш яно будзе мець прыкметы эстэтычнай і культурнай з'явы, скіраванай на маніфестацыю і фармуляванне новых культурных канцэптаў, у тым ліку — правядзенне аглядаў набыткаў галерэі і майстэрні Алеся Пушкіна, літаратурнай вечарыны (сябры літаратурнага аб'яднання табала — "S-ТЭТ" прыехалі для азнаямлення з новымі тэкстамі калег і агучвання сваіх твораў; былі таксама ўдзельнікі міжнароднай літаратурнай канферэнцыі ў Полацку). Удзельнікі акцыі бралі да ўвагі змену стаўлення грамадства да тэрміна "нацыяналізм", які апошнім часам стаў выглядаць больш талерантным, чым актыўна прафаніруемы шавіністамі "патрыятызм".

Як пазначыў ва ўступным слове лідэр "Правага рэваншу" паэт Славамір Адамовіч, гэта была "першая імпрэза такога кшталту" і таму ў ёй прысутнічала "вялікая доля імправізацыі". Пазначаецца, што ніхто з арганізатараў адмыслова даты правядзення з'езду не абіраў, аднак яна выпадкова супала з гадавінай Слуцкага збройнага чыну, удзельнікі якога хоць і "пацярпелі паразу, аднак захавалі гонар і годнасць нацыі".

Пасля слова ўзяў гаспадар памяшкання мастак Алесь Пушкін, які адзначыў, што імпрэза адбываецца "сціплая па ўмовах, аднак не па рэзанансе". Віцебск, гаварыў далей мастак, горад з больш як тысячагадовай гісторыяй, з ім звязана творчасць Малевіча, Шагала, Кандзінскага, Бахціна. У той момант, калі Алесь Пушкін пачаў распавядаць пра сучасны стан культуры ў Наддзвінні, яго перапыніў афіцэр міліцыі, які ўвайшоў у памяшканне і паведаміў, што, маўляў, да іх толькі што прыйшло ананімнае "саабшчэнне", паводле якога "здание заминировано". Паведамленне дакладна праілюстравала і моўную сітуацыю ў дзяржаве, і палітычную таксама. У адказ на заяву афіцэра прысутныя выказалі гатоўнасць "узарвацца" на міне і заявілі, што могуць пакінуць памяшканне толькі з санкцыі пракурора. Пасля сыходу міліцыянта праца працягвалася. А.Пушкін выказаў перакананне, што "мы нацыя, здольная рэаніміравацца". Паведаміў, што гэта першая палітычная падзея, якая адбываецца ў галерэі, дзе сабрана вялікая калекцыя палотнаў постмадэрністаў, маладога мастацтва Беларусі, і правядзенне з'езду тут — вымушаны крок, рэакцыя на палітыку дэнацыяналізацыі, якая зараз праводзіцца на дзяржаўным узроўні. У школах прадметы зноў пераводзяцца на рускую мову навучання, у гарсавеце адмаўляюцца размаўляць на дзяржаўнай мове, у горадзе расце ўплыў шавіністычных рухаў. Тут зноў з'явіўся міліцыянт і паведаміў пра тое, што "просьба выканана, ишчэм пракурора".

У сваёй прамове мастак заклікаў "кожнага стаць асобай", бо нацыя складаецца толькі з канкрэтных і духоўна моцных асоб, якія павінны сцвярджаць годнасць свайго народа стваральнай дзейнасцю, і што толькі тады Беларусь будзе жыць у XXI стагоддзі. У якасці канкрэтнага прыкладу паведаміў пра тое, што ў галерэі плануецца цыкл лекцый па постмадэрнізму мінскіх літаратуразнаўцаў. Падкрэсліў, што "кроў засталася ў мінулым", і "толькі ў мінулым", і што прынцыпы, на якіх грунтуецца нацыянальная ідэя, супадаюць з хрысціянскімі, а значыць — і агульначалавечымі прынцыпамі. У зале галерэі знаходзілася каля 70 чалавек, але прадстаўлялі яны значна большае кола людзей, і гэта, на думку гаспадара, вельмі добра, бо ўсіх нацыяналістаў 60-х можна было пасадзіць у адзін "рафік". Ён выказаў упэўненасць, што ў наступным стагоддзі горад стане сапраўды хрысціянскім з беларускай гаворкай на вуліцах.

Рабочае паседжанне працягвалася пад кіраўніцтвам Славаміра Адамовіча. Але міліцыя гвалтоўна "эвакуявала" з галерэі людзей, якія адмовіліся пакінуць памяшканне. "Эвакуацыя" суправаджалася пільным вобыскам уласных рэчаў прысутных (МУСаўцы падазравалі, што тэрарыст знаходзіцца сярод удзельнікаў з'езду). Хоць афіцэр і заяўляў пра тое, што эвакуююцца і жыхары бліжэйшых будынкаў, было вядома: інфармацыя пра пагрозу не паступала ў краязнаўчы музей, які знаходзіцца ў 15 метрах ад галерэі, дзе, дарэчы, у гэты час праходзілі дзіцячыя экскурсіі...

Некалькі ўдзельнікаў, у тым ліку арганізатары з'езду, "за непадпарадкаванне ўладам" былі затрыманы. Арганізацыйную функцыю ў дадзеных экстрэмальных умовах узяла на сябе Нацыянальная партыя Беларусі. Праца з'езду працягвалася на секцыі "Сутнасць беларускага нацыяналізму". Былі заслуханы даклады і праведзена абмеркаванне. Сярод іх можна вылучыць "Беларускае пытанне" Сцяпана Місько, аповяд, прысвечаны рэпрэсіям супраць носьбітаў нацыянальнай свядомасці ў 60 — 80 гады; "Нацыя і нацыяналізм у сістэмным азначэнні" Паўла Букі, дзе гаворка ішла пра тое, што для сусветнай цывілізацыі ў роўнай ступені непрымальны як манапалізм якой-небудзь нацыі, так і няздольнасць іншых нацый гэтаму манапалізму супрацьстаяць. У дакладзе "Нацыяналізм як вынік эвалюцыі чалавека і грамадства" Анатоля Астапенкі фармавалася думка пра тое, што нацыяналізм з'яўляецца новым этапам у свядомасці чалавецтва пасля політэізму і монатэізму.

Алесь Мудрычэнка ў дакладзе "Палітычная сітуацыя ў Віцебску" выказаў глыбокую занепакоенасць у сувязі з актывізацыяй антыдзяржаўных груповак у горадзе. У выступленнях падымаліся праблемы выжывання асобы ва ўмовах татальнай псіхатроннай вайны, асэнсоўвалася культурная сітуацыя на Беларусі (краіна, на думку выступаючых, выходзіць за межы постмадэрнізму і стварае сваю актуальную культуру).

На другі дзень пасля, зразумела ж, няўдалых "пошукаў" міны, улады дазволілі прадоўжыць з'езд у галерэі. Былі паўтораны некаторыя даклады, што гучалі на секцыі. Сярод нова прачытаных спавешчанняў варта вызначыць тэкст Андрэя Пяткевіча "Камунізм і фашызм", дзе акцэнтавалася ўвага на тым, што пакуль не будзе маральна і юрыдычна асуджаны дзяржаўны лад, які існаваў раней, немагчыма ніякая гаворка пра Адраджэнне, аднак падкрэслівалася, што "судзіць" трэба не за погляды, а за канкрэтныя крымінальныя дзеянні".

Славамір Адамовіч зрабіў заяву для прэсы:"Мы канкрэтна абвяшчаем сябе нацыяналістамі і прагнем гэтай ідэі, аднак мы не ёсць фашысты". Функцыю сваёй арганізацыі старшыня "Правага рэваншу" бачыць у тым, што гэта арганізацыя на сённяшні дзень з'яўляецца каталізатарам грамадскіх працэсаў і мэтай сваёй лічыць абудзіць актыўнасць "таго, хто яшчэ спіць" і хто не зразумеў пільную неабходнасць сёння абараніць незалежнасць. Такім чынам сп. Адамовіч вызначыў "крайні радыкалізм" сваёй арганізацыі. Аднак старшыня НПБ Анатоль Астапенка папярэдзіў, што само ўвядзенне тэрміна "крайні радыкалізм" прафануе ідэю нацыяналізму.

Андрэй Рамашэўскі, які ўдзельнічаў як "прыватны нацыяналіст", у "крайнім радыкалізме" прафанацыі ідэі не ўбачыў. Ён правodзіў гістарычныя паралелі паміж сённяшнім развіццём падзей у Беларусі і сітуацыяй, якая складалася на працягу стагоддзяў у Індыі. Нацыянальная вызваленчая барацьба да XX стагоддзя не прыносіла істотных вынікаў — супрацьдзеянне выклікала чарговую хвалю гвалту з боку новых каланізатараў. З-пад прыгнёту краіну вывела філасофія Махатмы Гандзі.

У дыскусіях падкрэслівалася, што стварэнне блоку правых партый справакавана рэгістрацыяй і актывізацыяй шэрагу антыбеларускіх арганізацыяў, сярод якіх: СС "Белая Русь", ЛДПБ (філія партыі Жырыноўскага) ды інш., якія не хаваюць сваёй мэты ліквідаваць незалежнасць нашае краіны.

Былі прыняты рэзалюцыя і мемарандум з патрабаваннямі да ўладных структур паважаць народ і яго культуру, неадкладнай забароны дзейнасці антыбеларускіх арганізацый на тэрыторыі Беларусі. Гучаў заклік да сродкаў масавай інфармацыі максімальна аб'ектыўна асвятліць і прааналізаваць работу з'езду.

Пасля з'езду планавалася правесці ўрачыстае ўскладанне кветак да помніка Уладзіміру Караткевічу і шэсце ад помніка да плошчы Незалежнасці. Кіруючыся немаведама якой логікай, улады забаранілі ўшанаванне памяці слаўнага сына Беларусі. Аднак ускладанне кветак адбылося. Пасля чаго Славамір Адамовіч звярнуўся да жыхароў горада з тлумачэннямі мэтаў мерапрыемства. Алесь Пушкін казаў на ўрачыстасці пра тое, што помнік нашаму класіку "жывы" ў адрозненне ад камуністычных ідалаў, якія пакінула былая ўлада. Скончыў мастак сваю прамову словамі:"Я вас люблю ўсіх". Гэтыя словы былі звернуты не толькі да сяброў і аднадумцаў, але і да МУСаўцаў, якія стаялі побач, гатовыя да "пресечення" культурніцкай акцыі нацыяналістаў, і да палітычных працўнікаў, якія, валодаючы рэальнай уладай у горадзе, спрабавалі сарваць работу з'езду.

За правядзенне несанкцыянаванага мітынгу арганізатары адразу былі затрыманы. Але неспадзявана ініцыятыву ўзялі на сябе нікому не вядомыя хлопец і дзяўчына, якія заклікалі людзей ісці да плошчы. Як стала вядома пазней, гэта былі Алена і Алесь Быньковы, якія толькі што ажаніліся і прыйшлі ўскласці кветкі да помніка. На вачах у разгубленай міліцыі яны павялі людзей. Калі іх схапілі, было ўжо позна: людзі ішлі, а на месца затрыманых станавіліся новыя. Нацыяналісты ўперамешку з міліцыянтамі дайшлі да плошчы Незалежнасці. Людзі ў форме з дзяржаўнай сімволікай забіралі ў першую чаргу тых, хто нёс дзяржаўныя сцягі. Увечары таго ж дня адбыўся суд, на якім некалькі чалавек былі асуджаны на штрафы (па 300 рублёў) і адміністрацыйнае спагнанне. Яшчэ ў першы дзень быў затрыманы на трое сутак Юрась Карпаў, ад трох да 15 сутак атрымалі Адамовіч, Пушкін, Рамашэўскі.

Сам з'езд і падзеі, якія вакол яго адбываліся, маюць сімвалічны сэнс. Гэта, у пэўнай ступені, пераломны момант у свядомасці нацыі. Аб сабе гучна заявіла новая палітычная сіла. Маніфеставаліся правыя і крайне правыя нацыяналісты. Чорна-чырвоныя колеры іхніх сцягоў у гэтым кантэксце мелі жалобныя асацыяцыі і побач з дзяржаўным бел-чырвона-белым сцягам Рэспублікі Беларусь увасаблялі ідэю смерці і Адраджэння.

**Алесь ТУРОВІЧ,**
**студэнт Белдзяржуніверсітэта**

КАНТРАМАРКА

***Балерына Натэла Дадзішкіліяні належыць да той нешматлікай катэгорыі артыстаў, каго ў балетнай трупе Вялікага тэатра лічаць вядучым майстрам сцэны. Ужо пятнаццаць гадоў танцуе яна на харэаграфічных падмостках, у складзе балетнай трупы тэатра аб'ездзіла многія краіны свету — Германію і Францыю, Іспанію і Партугалію, Югаславію і Румынію, Кувейт і Сірыю, Таіланд і Сінгапур, Грэцыю і Егіпет.***

# ТАНЕЦ НАТЭЛЫ



А пачынаўся яе творчы шлях на пачатку 80-х гадоў, калі пасля заканчэння Беларускага харэаграфічнага вучылішча яна, выхаванка вядомай балерыны І.Савельевай, была прынята ў тэатр. У тым, што Натэла выбрала менавіта такую сцяжынку, напэўна, ёсць свая заканамернасць. Бо маці яе, народная артыстка Беларусі Клара Малышава, шмат гадоў выступала на гэтай сцэне, станцавала шмат партый класічнага і сучаснага рэпертуару, была першай выканальніцай многіх роляў у балетах беларускіх кампазітараў. Бацька, вядомы рэжысёр і харэограф, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Атар Дадзішкіліяні, паставіў у свой час шмат балетных спектакляў на мінскай сцэне.

У трупу Натэла ўвайшла неяк непрыкметна, хаця спецыялісты адзначалі добрую падрыхтоўку выпускніцы, схільнасць да партый класічнага рэпертуару. Маладая артыстка была шмат занята ў кардэбалеце, эпізодах, потым звярнула на сябе ўвагу невялікай партыяй Уладаркі дрыяд у "Дон-Кіхоце". Вясной 1980 года пад заканчэнне сезона станцавала вядучую партыю ў аднаактовым балеце "Пахіта". І гэта быў сапраўдны поспех!

А потым, усяго за некалькі наступных сезонаў Н.Дадзішкіліяні паспела выканаць цэнтральныя партыі ў многіх спектаклях — Еву ў "Стварэнні свету", Жызэль і Сільфіду ў аднайменных балетах, Машу ў "Шчаўкунку", Адэту-Адылію ў "Лебядзіным возеры", Натальку ў "Кургане", Фрыгію ў "Спартаку", Каханую ў "Карміна Бурана". Ужо ў сваіх першых значных ролях артыстка дэманстравала валоданне багаццем выразных сродкаў танца. Выдатныя балетныя дадзеныя — вялікі крок, лёгкі паветраны скачок, наогул падоўжаныя лініі пластыкі, элегантнасць выканальніцкай манеры дазвалялі ёй упэўнена, з эмацыянальным уздымам праводзіць гэтыя партыі.

Успамінаю сваё даўняе ўражанне ад спектакля "Стварэнне свету", калі Еву ў ім танцавала Н.Дадзішкіліяні. Яе гераіня не толькі пяшчотная і жаноцкая, безабаронная і шчырая. У ёй адчуваецца вялікая ўнутраная сіла, здольнасць пераадолець усе няшчасці і нягоды, усё вытрымаць — дзеля каханага, дзеля жыцця, дзеля будучыні... Ева Натэлы Дадзішкіліяні праходзіла доўгі шлях — ад наіўнай дзяўчынкі да мудрай, сталай жанчыны. Застаўся ў памяці абразок фіналу: безабаронна-маленькая постаць Евы ў вялікай сцэнічнай прасторы, а за ёй на жывапісным задніку суровае аблічча сялянскай жанчыны, павязанай хусткай. Шчымлівае, кранаючае супастаўленне...

Вельмі ўдалымі партыямі Н.Дадзішкіліяні, так бы мовіць, ранняга перыяду яе творчасці (зрэшты, іх яна выконвае і сёння) лічацца Марыя Тальёні ў "Па-дэ-катры" і Сільфіда ў аднайменным балеце. Дзівосная ўстойлівасць у арабесках, выразныя рукі, вялікі і лёгкі скачок, натуральная грацыя перадавалі воблік М.Тальёні — выдатнай балерыны эпохі рамантызму. У "Сільфідзе" кантыленнасць танца артысткі стварала ілюзію лунання над зямлёй.

У аблічча Машы (балет "Шчаўкунок") артыстка звычайна падкрэслівала рысы дзіцячай, шчырай наіўнасці, безабароннай і крохкай жаноцкасці. Здзіўленая, спыняецца яе гераіня перад злом...

Заўсёды цікава параўноўваць розныя склады выканаўцаў у адным і тым жа спектаклі, сачыць за тым, як адметныя акцёрскія індывідуальнасці змяняюць сэнсавыя акцэнты харэаграфічнага твора. Так, у балеце "Рамэо і Джульета" галоўная гераіня ў выкананні І.Душкевіч успрымаецца больш дарослай і, магчыма, больш драматычнай. А Н.Дадзішкіліяні падкрэслівае ў сваёй Джульеце пяшчотную і далікатную ўзвышанасць унутранага свету.

У нечаканым аблічча паўстае артыстка ў балеце "Ундзіна", дзе яна выконвае партыю Беатрычэ, суперніцы галоўнай гераіні. У многіх папярэдніх спектаклях персанажы балерыны ўспрымаліся як увасабленне безабароннасці і жаноцкасці. Менавіта такія яе Джульета, Каханая ў "Карміна Бурана", Дзева-выбранніца ў "Вясне свяшчэннай". Беатрычэ — зусім іншы чалавечы тып. Знешняя прывабнасць знатнай паненкі спалучаецца ў яе аблічча з уладарнасцю, пераканаппем, што яна мае права распараджацца пачуццямі і лёсам іншага чалавека. У пачуццях Беатрычэ да Палемона няшмат сапраўднай цеплыні, а больш жадання сцвердзіць сваю волю. Рэўнасць, адчай, дакоры пакрыўджанага самалюбства, помслівасць — гэта гама пачуццяў вельмі выразна выяўляецца ў міміцы і пластыцы артысткі.

Наогул, танец Н.Дадзішкіліяні заўсёды вызначаецца пластычнай культурай, чысцінёй ліній, тонкасцю танцавальнага малюнка. Сфера, у якой найбольш натуральна выяўляецца яе талент, — гэта светлая, летуценная лірыка, увасобленая праз строгія акадэмічныя прапорцыі класічнага танца або экспрэсіўную пластыку сучаснай харэаграфіі.

Гераіні балерыны вельмі розныя — трапяткая Жызэль, гаротная Адэта, драматычная Фрыгія, летуценная Сільфіда, добрая і чулая Маша, самаадданая Джульета... Ды, відаць, інакш і не можа быць, калі ты — заслужаная артыстка, вядучы майстар сцэны, калі балету належыць увесь час, усе думкі і пачуцці. Калі ён — усё жыццё...

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**



*На здымках:* У ролі Дзевы-выбранніцы ("Вясна свяшчэнная" І.Стравінскага); Натэла Дадзішкіліяні.

**Фота В.ДРАЧОВА**

# ЁН ДАПАМОГІ НЕ ЧАКАЕ...

З Мікалаем Фёдаравічам Варвашэвічам я знаёмы даўно. Не раз пісаў пра яго сцэнічныя пастаноўкі яшчэ тады, калі ён узначальваў Слонімскі народны тэатр. А два гады таму ён узяў мяне на гомельскі фестываль "Драматычнае мастацтва Беларусі — 92". "Складвай чамадан, паедзем на тыдзень у Гомель. Трэба табе дасканала ведаць сённяшнюю тэатральную сітуацыю ў Беларусі. А таксама пазнаёмлю цябе са сваімі сябрамі", — сказаў Мікалай Фёдаравіч. І мы — паехалі...



Менавіта там, у Гомелі, сярод нашых беларускіх акцёраў, рэжысёраў, драматургаў і тэатральных крытыкаў я адчуў і ўбачыў, якім вялікім аўтарытэтам і павагай карыстаецца гэты апантана ўлюбёны ў сваю справу чалавек.

Бацькоў сваіх Мікалай Варвашэвіч не памятае, іх знішчылі немцы. Выхоўвала і гадавала яго цётка ў Ленінградзе. Шмат хапанулі гора і бяды ў пасляваенным разбураным горадзе на Няве, але ўсе цяжкасці былі вытрыманы і перажыты. А ў 1957 годзе беларускі юнак (нарадзіўся ў вёсцы Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна) паступае ў Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі. З вялікай радасцю і сёння Мікалай Фёдаравіч успамінае сваіх аднакурснікаў і выкладчыкаў — рэжысёра-практыка У.Макар'ева, педагога О.Ольшыц і іншых. Пасля заканчэння інстытута маладога рэжысёра накіравалі на працу ў Калінінскі абласны тэатр (цяпер гэта горад Цвер). Першай яго самастойнай пастаноўкай быў спектакль "На бойкім месцы" А.Астроўскага, пасля былі пастаўлены іншыя спектаклі па п'есах рускіх і савецкіх драматургаў. Жывучы ў Калініне, М.Варвашэвіч вельмі хацеў вярнуцца ў родную Беларусь. Але такой мажлівасці, на жаль, не было. І вось аднойчы ён сустрэў свайго аднакласніка Эдуарда Усачова, які працаваў тады ў Горацкай беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён і прапанаваў Мікалаю Варвашэвічу вярнуцца на радзіму. З радасцю была прынята прапанова, а ў 1964 годзе наш зямляк ужо працуе дырэктарам Дома культуры ў Горках на Магілёўшчыне і адначасова ўзначальвае тэатральны калектыў сельскагаспадарчай акадэміі.

У пачатку 1968 года Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч прыехаў у горад пад Шчарай і пачаў кіраваць Слонімскім народным тэатрам. І тут яго першай самастойнай працай быў спектакль "На бойкім месцы" А.Астроўскага. "Ты пытаеш, ці ёсць у мяне любімыя спектаклі, якія я ўспамінаю і зараз? Вядома ж, ёсць. Гэта ў першую чаргу "На бойкім месцы" А.Астроўскага, "Барабаншчыца" А.Салынскага, першая пастаноўка "Паўлінкі" Янкі Купалы, "Ганка" У.Галубка... Ды дзе ж іх усе пералічыш", — гаворыць Мікалай Фёдаравіч. Так, сапраўды, спектакляў у Слоніме рэжысёрам М.Варвашэвічам было пастаўлена шмат. Але больш за ўсё мастак сцэны звяртаўся да беларускай драматургіі. Сцэнічнае жыццё ў Слоніме пабачылі п'есы "Людзі і д'яблы" К.Крапівы, "Папараць-кветка" І.Козела, "Пінская шляхта" В.Дуніна-Марцінкевіча, "Таблетку пад язык" А.Макаёнка, "Навальніца будзе" А.Звонака і дзесяткі іншых твораў. Самы вялікі поспех тады меў спектакль "Паўлінка". У 1969 годзе газета "Літаратура і мастацтва" пісала: "Рэжысёр М.Варвашэвіч паказаў сябе ў гэтай пастаноўцы не толькі ўдумлівым інтэрпрэтатарам п'есы, а і добрым настаўнікам самадзейных артыстаў". З "Паўлінкай" народны тэатр гастраляваў у Літве, Латвіі, Эстоніі, Расіі.

Вядома ж, былі тады ў рэпертуары народнага тэатра і п'есы ўкраінскіх і рускіх драматургаў. Папулярнасцю ў гледачоў карысталіся спектаклі "Запомніце іх імёны" П.Салюка, "Дзіўны доктар" А.Сафронава, "Васа Жалязнова" М.Горкага і многія іншыя. Той жа "ЛіМ" пра пастаноўку "Дзіўны доктар" у 1973 годзе пісаў, што "рэжысёр Мікалай Варвашэвіч і акцёры стварылі спектакль, аб якім з пэўным правам можна гаварыць як

КАНТРАМАРКА

# КРОК УПЕРАД І КРЫХУ НАЗАД

***Пасляслоўе да прэм'еры мюзікла Уладзіміра Кандрусевіча "Шклянка вады" ў Тэатры музычнай камедыі.***

Талент, таленавітая асоба, таленавіты твор. Паняцці, паводле іх глыбіннага сэнсу, шырокія, усеабдымныя. Яны не зводзяцца адно толькі да вызначэнняў кшталту "высокамастацкі", "высокамаральны", "высокаідэйны" ці, што ад гэтага зусім недалёка, "элітарны". Талент трэба таксама мець і каб нешта зрабіць усеагульнадаступнае, масавае і, хоць нашыя вушы да таго не звыклі, — камерцыйнае, гэта значыць тое, што прадаецца і ахвотна купляецца. У дачыненні да мастацтва гэтая выснова таксама не пазбаўлена сэнсу. Тым больш, калі шукаецца новае ў добра зведаным.

Можна, натуральна, зрабіць пагардлівую міну і заявіць, маўляў, камерцыйны тэатр аніякага дачынення да мастацтва не мае. А гісторыя гэта аспрэчыць. Хоць бы прыкладам п'есы "Шклянка вады", напісанай французам Эжэнам Скрыбам яшчэ ў мінулым стагоддзі. Моршчыліся эстэты тады, моршчацца і зараз. А гэты твор, які лічыцца ўзорам "добра зробленай п'есы", перажыў не адно пакаленне снобаў ад мастацтва і другое стагоддзе дае імпульсы дзеля творчасці (падкрэсліваю — дзеля творчасці) мастакам, якія разумеюць, што прафесіяналізм і густ не антыподы камерцыйным накірункам у мастацтве.

Інтрыга. Яшчэ адно немалаважнае паняцце як для разумення дзейснай прыроды драмы, тэатра, так і іх дачыненняў з жыццём. Інтрыга — дзейсны стрыжань п'есы і спектакля, яна складаецца са шматлікіх перыпетый, нечаканых і арыгінальных паваротаў у развіцці сюжэта. Інтрыга — адзін з магчымых і найбольш эфектыўных шляхоў да дасягнення драматызму відовішча, бо героі, групуючыся вакол яе, вымушаны напружана шукаць выйсце з крызісных станаў, у якія іх заганяе інтрыга. Тэатр — люстэрка жыцця або яго мадэль (рэалістычная ці алегарычная). Ён мастацкімі сродкамі апрацоўвае інтрыгу, якая існуе ў жыцці ці нават ім рухае. А мо і ўсё нашае жыццё кімсьці ці намі самімі арганізаваная інтрыга? Інтрыга мае ўсяленскі сэнс? Ва ўсякім разе, яна — тэма.

Тэатр музычнай камедыі Беларусі з пераменным поспехам апошнія паўтара дзесяцігоддзі шукае свой новы імідж. Парадаксальна, але факт: мастацкі імідж, які сапраўды адпавядаў бы яго назве, — тэатру музычнай камедыі, а не традыцыйнай (мацней скажам — зашмальцаванай) аперэце. Калектыў шукае там, дзе можа знайсці,



— у аналах якаснай сусветнай літаратуры. Здаецца, пачалося з "Гора ад розуму" Грыбаедава. Затым былі Растан, Твен, Маякоўскі, Моэм. Спіс можна доўжыць. Спачатку супрацоўнічалі (ці проста ставілі) з кампазітарамі замежнымі, затым зрабілі крок наперад і, здаецца, як рашучы, так і плённы: заняліся стварэннем уласнага, арыгінальнага рэпертуару праз супрацоўніцтва з айчыннымі кампазітарамі. У беларускай музычнай культуры намецíўся новы цікавы пласт.

Мюзікл — жанр не наш? Яно хутчэй за ўсё так. Ва ўсялякім разе гэтая назва ці тэрмін звязаны з нью-ёркскім Брадвеем ці, пазней, лонданскім Соха. Там ён — любімы жанр публікі. Там ён нараджаў і замацоўваў свае законы, сінтэзуючы сучасныя формы драмы, музычнай і харэаграфічнай сцэн. Там унутры (а то і на перыферыі) жанру адбываліся эвалюцыі і рэвалюцыі. Да прыкладу, найсмялейшыя эксперыменты Вэбера, які ўслед за Макдэрмотам сцвердзіў права на сцэнічнае жыццё рок-оперы як варыянта мюзікла. Што тут найбольш важнае, не паглыбляючыся ў жанравыя нюансы? Смелыя разбурэнні традыцый, канонаў, што выяўляецца ў сінтэзаванні джазавай, фальклорнай, сімфанічнай, рокавай музыкі і да т.п. Адсюль — зусім іншае гучанне аркестра, як, дарэчы, і зусім іншы яго склад. Зусім іншыя патрабаванні да акцёраў, як салістаў, так і хору, а значыць, узнікае праблема фарміравання трупы. Спектакль грунтуецца на прынцыпова іншым парадку, чым у аперэце, драматургіі, якую звычайна называюць "скразной пластычнай". Кампазітар, які "сачыняе" музыку, мусіць бачыць і прадбачыць пластычны вобраз і рух будучага відовішча. А, магчыма, якраз пластыка спектакля і вызначае музычную драматургію? Нарэшце, рэжысура, якая павінна быць экстра-віртуознай у апеляванні да багацейшых і найразнастайнейшых выразных сродкаў усіх відаў тэатра, пры гэтым не забываючыся на літаратурную аснову, якая не абавязкова камедыйная, а, магчыма, сёння ў мюзікле хутчэй нават драматычная.

На сцэне мінскай "музкамедыі" ў мюзікле паспрабавалі свае сілы як замежныя рэжысёры, так і свае. Рэжысёры розных генерацый, розных стыляў і манераў. Успамінаю іх імёны. Найбольш пленнымі былі пошукі расейца Рамана Вікцюка ("Гора ад розуму"); менчука Вячаслава Цюпы ("Сірано", "Клоп", "Гуляем у прынца і жабрака"). І знаходжу адказ на пытанне: чаму? Ды таму, што абодва яны, кожны натуральна, па-свойму, спавядаюць прынцыпы татальнага тэатра: усё з арсенала сцэнічнага мастацтва, што лічаць патрэбным, "кідаюць" на вырашэнне скразной драматургічнай ідэі, смела абыгрываючы прастору сцэны, — ад застылай масавай сцэны да акцёра-знака, ад псіхалагічна напоўненага маналога-споведзі да экстравагантнага мюзік-хола ці рэвю і г.д. і да т.п. Што тычыцца дырыжораў, музычных кіраўнікоў пастановак, то смела, не баючыся арыгінальных аранжыровак, чытаў і чытае партытуру са сваім аркестрам, у якім знайшлося месца для электронных гітар і сінтэзатараў, найперш і найлепш малады маэстра Аляксандр Сасноўскі.

"Шклянка вады" — другі твор у жанры мюзікла для Тэатра музычнай камедыі айчыннага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча. Да гэтага была "Джулія" паводле аповесці "Тэатр" Сомерсэта Моэма. Кампазітар, які мае багаты вопыт у напісанні музыкі да драматычных спектакляў, кінафільмаў, аўтар балета і сімфоній, зноў прынцыпова абапіраецца на літаратурную драму. Яго музыка — сюжэтная, дынамічная, са скразной тэмай, якая не губляецца, нягледзячы на разнастайна нюансаваныя арыі-тэмы вядучых персанажаў. Ён вычляняе тэму, ідэю і нібыта нанізвае на яе ўсе астатнія, якія ёй спадарожнічаюць ці дапамагаюць раскрыцца. Яго колішняя "Джулія" вырастала з тэмы багемнага лонданскага Соха, і сапраўды ў стылі сумнага "рок энд блюзу" гучаў "саксафон" жыцця актрысы і жанчыны, прыкутай эмоцыямі, комплексамі, жаданнямі і нават розумам да стылю і нораваў жыцця Соха. У "Шклянцы вады" Кандрусевіч найперш убачыў інтрыгу. Для яго гэтая п'еса не толькі носьбіт інтрыгі, яна — пра інтрыгу, якая і расфарбоўвае нечаканымі адценнямі жыццё, і робіць чалавека хоць на момант шчаслівым, і калечыць, маральна нявечыць асобу. Адсюль уразлівы драматызм музыкі. У ёй ёсць і іншае (гарэзлівасць, флірт, іронія, сарказм), але драматызм — скразная, вырашальная інтанацыя. А ў пралогу-уверцюры ды і яшчэ ў некаторых месцах нават філасофскі роздум пра жыццё, якое ўключаецца ў інтрыгу ці падпарадкоўваецца ёй. І гэта погляд сучаснага чалавека, выхаванага ў новых рытмах, але з вялікім багаццем ведання вопыту чалавецтва, якое ўсё разумее і зноў, і зноў спакушаецца. Вось дзе, на мой погляд, аргументацыя выкарыстання сродкаў рок-музыкі і джазу. Гэтую думку магутна і эфектна даказаў фінал прэм'ернага спектакля, калі ў традыцыйным маляўнічым паклоне-балагане сярод усіх удзельнікаў спектакля з'явіўся сам кампазітар і, элегантна, модна апрануты, як сапраўдны музыка сыграў на губным гармоніку адну з тэм спектакля ў стылі "рок".

Між іншым, сучасны, у пэўнай ступені драматызаваны і нават філасафічны погляд на добра вядомую класічную п'есу, погляд кампазітара адчуў, зразумеў і стаў аднадумцам аўтара дырыжор і музычны кіраўнік пастаноўкі Аляксандр Сасноўскі. Музыка ў выкананні аркестра, які ад пастаноўкі да пастаноўкі набывае моцы і зладжанасці, дзейсная, яна рухае спектакль, далікатна акцэнтуе тэмы і вобразы, прымушае ўслухацца ў сябе, дадумаць, дафантазіраваць тое, што губляецца ў асобных невыразна сыграных ці перабольшана расфарбаваных сцэнах.

Паставіў спектакль вопытны рэжысёр Барыс Утораў, чалавек сталага (ці старэйшага) пакалення рэжысуры тэатра. Як заўсёды, у яго работах усё чыста, прадумана, выверана кожная мізансцэна, плаўна мяняюцца карціны, якіх у п'есе вельмі шмат, бо шмат калізій і перыпетый. Усё добра, правільна — традыцыйна. А мо так і трэба было: "добра зробленая п'еса" і "добра зроблены спектакль"? І ўсё ж першыя словы, якія нарадзіліся пасля прагляду спектакля, замацоўваюцца і з цягам часу. Тое, што "добра зроблена" ў адпаведнасці з традыцыяй іншага жанру, на гэтай сцэне паварочваецца бокам "прэсна зробленага" ў дачыненні да задумы аўтара: не будзем забываць, што музычная драматургія ў сэнсе задумы выступае першаснай. Не падхопленай, не развітай застаецца ідэя інтрыгі (не драматургічнага прыёму). Філасафічнасць (магчыма, нават з давескам лёгкай іроніі), закладзеная ў музыцы, матэрыялізавалася ў адарваных ад сюжэтных лабірынтаў твору харэаграфічных нумарах, якія прагучалі як выпадкова выхапленыя з нейкага заштампаванага сучаснага вар'етэ ці шоў. Не дапамагло, а можа, наадварот, перамагло сцэнаграфічнае рашэнне (сяганне аж у космас) мастака Барыса Герлавана. Далейшая трансфармацыя нябесных свяціл у жырандолі салонаў сама па сабе эфектная, але толькі на ўзроўні тэхнічным, бо зноў чырвоныя шырмы-заслоны панясуць знак аперэтачнасці. Тым больш, што выхады акцёраў, іх пластыка ўсё адтуль — з салоннай, фальшывай аперэты. Цэласны пластычны вобраз спектакля застаўся марай кампазітара і дырыжора. І тут крыўдна, бо: па-першае, большасць выканаўцаў-акцёраў ужо маюць вопыт існавання ў музычна-драматычным спектаклі, гэтаксама як і выканання сольных партый у іншай, чым аперэце, манеры; па-другое, пастаноўшчыкі (рэжысёр, мастак, балетмайстар Віктар Саркісьян) у чарговых карцінах адмаўляюць тое каштоўнае, важнае, што самі ж у папярэдніх сцэнах знаходзілі. Не ратуе і сам па сабе багаты драматычнымі адценнямі голас усімі любімай актрысы Наталлі Гайды, бо спосаб існавання акцёраў, правілы гульні ў дачыненні да гэтага твора рэжысёрам былі абраныя ўсё ж іншыя, неадэкватныя.

Тым не менш, адчуванне пасля спектакля далёкае ад песімізму. Тэатр не адмаўляецца ад пошуку свайго іміджу ў накірунку да мюзікла і, як гэта бывае, у чымсьці ўдасканальваецца, штосьці губляе. Пралікі разумее. Тэатр працуе над стварэннем арыгінальнага рэпертуару, прыцягваючы да супрацоўніцтва айчынных кампазітараў (праўда, смялей бы яшчэ і лібрэтыстаў). Зала запаўняецца сваёй публікай, якая добра разумее, чаго хоча і куды ідзе тэатр.

**Вячаслаў РАКІЦКІ**



*На здымках:* кампазітар Уладзімір Кандрусевіч; сцэна са спектакля "Шклянка вады".

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

[redacted]

аб акумулятары радаснага, аптымістычнага светаўспрымання нашых сучаснікаў".

За заслугі перад тэатральным мастацтвам рэспублікі Мікалаю Фёдаравічу Варвашэвічу ў 1975 годзе нададзена званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

Поўны сіл, энергіі і новых творчых задумак Мікалай Варвашэвіч на гэтым не спыніўся. Яго калектыў першым у рэспубліцы становіцца гаспадарчаразліковым тэатрам-студыяй. Два з паловай гады за ім сачылі абласное ўпраўленне і Міністэрства культуры Беларусі. А тэатр-студыя працаваў паспяхова, грошай не пытаў і нават сам адлічваў у фонд дзяржавы. Пасля гэтага Міністэрства культуры рэспублікі прапанавала тэатру Варвашэвіча перайсці на дзяржаўную структуру кіравання. Што і было зроблена. А з народнага самадзейнага тэатра, дзякуючы ў першую чаргу яго кіраўніку, паўстаў у Слоніме прафесійны беларускі драматычны тэатр. Ён працуе толькі на роднай мове, а ў яго рэпертуары значацца драматычныя творы Я.Купалы, У.Галубка, Л.Родзевіча, А.Якімовіча, Я.Шварца, А.Федарэнкі. Я запытаў у Мікалая Фёдаравіча, якія ён яшчэ марыць паставіць на слонімскай сцэне спектаклі? Усміхнуўшыся, ён адказаў: "Даўно мару ажыццявіць пастаноўку п'есы Лопэ дэ Вега "Сабака на сене". Вельмі люблю гэты драматычны твор. Таксама хачу паставіць Шэкспіра — "Рамэа і Джульета". Хачу паказаць сённяшняму гледачу, як па сапраўднаму можна кахаць, якія чыстыя і светлыя пачуцці ёсць у чалавека... Мары ў мяне вялікія, дай Божа іх яшчэ ажыццявіць..."

— А што Вы скажаце пра сучасны стан нашай беларускай драматургіі?

— Ёсць і ў беларускай літаратуры добрыя драматычныя творы. Але ў іх мала глыбіні, няма яркіх вобразаў, пачуццяў. Прычынай, відаць, застаецца той савецкі час, калі творы пісаліся амаль па заказе. Таму я лічу, што за гэтыя амаль семдзесят гадоў шмат згублена. Але тое, што напісана Я.Купалам, У.Галубком, В.Дуніным-Марцінкевічам, — гэта наш нацыянальны скарб. Да іх часцей і звяртаюцца нашы тэатры.

— А ў якім наогул становішчы сёння знаходзіцца тэатральнае мастацтва Беларусі?

— Нядаўна я быў на нарадзе ў Мінску. Выступалі міністр, намеснік міністра, іншыя дзяржаўныя чыны. З іх прамоў я зразумеў, што ў бліжэйшы час ад дзяржавы дапамогі чакаць не прыйдзецца. Трэба, відаць, нам спадзявацца на свае ўласныя сілы. Ды й якая можа быць дапамога, калі з вуснаў нашага прэзідэнта я ні разу не чуў слоў "тэатр", "культура", "мастацтва", "літаратура". Дык аб чым тут можа быць размова?..

Так, у цяжкі і складаны час мы жывем. Але надзея ёсць, бо працуюць на зямлі беларускай такія людзі, як Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч. Таму па-добраму зайздросціш, што захоплены ён толькі адной справай — тэатрам. Нашым, беларускім, нацыянальным тэатрам. Хочацца толькі павіншаваць яго з шасцідзесяцігадовым юбілеем і пажадаць, каб мара рэжысёра ажыццявілася. Гэта значыць, каб прэм'ера трагедыі "Рамэа і Джульета" адбылася на сцэне новага тэатра ў цэнтры старажытнага горада Слоніма, які заўсёды славіўся і павінен славіцца тэатральнымі традыцыямі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

КАНТРАМАРКА

***Балерына Натэла Дадзішкіліяні належыць да той нешматлікай катэгорыі артыстаў, каго ў балетнай трупе Вялікага тэатра лічаць вядучым майстрам сцэны. Ужо пятнаццаць гадоў танцуе яна на харэаграфічных падмостках, у складзе балетнай трупы тэатра аб'ездзіла многія краіны свету — Германію і Францыю, Іспанію і Партугалію, Югаславію і Румынію, Кувейт і Сірыю, Таіланд і Сінгапур, Грэцыю і Егіпет.***

# ТАНЕЦ НАТЭЛЫ





А пачынаўся яе творчы шлях на пачатку 80-х гадоў, калі пасля заканчэння Беларускага харэаграфічнага вучылішча яна, выхаванка вядомай балерыны І.Савельевай, была прынята ў тэатр. У тым, што Натэла выбрала менавіта такую сцяжынку, напэўна, ёсць свая заканамернасць. Бо маці яе, народная артыстка Беларусі Клара Малышава, шмат гадоў выступала на гэтай сцэне, станцавала шмат партый класічнага і сучаснага рэпертуару, была першай выканальніцай многіх роляў у балетах беларускіх кампазітараў. Бацька, вядомы рэжысёр і харэограф, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Атар Дадзішкіліяні, паставіў у свой час шмат балетных спектакляў на мінскай сцэне.

У трупу Натэла ўвайшла неяк непрыкметна, хаця спецыялісты адзначалі добрую падрыхтоўку выпускніцы, схільнасць да партый класічнага рэпертуару. Маладая артыстка была шмат занята ў кардэбалеце, эпізодах, потым звярнула на сябе ўвагу невялікай партыяй Уладаркі дрыяд у "Дон-Кіхоце". Вясной 1980 года пад заканчэнне сезона станцавала вядучую партыю ў аднаактовым балеце "Пахіта". І гэта быў сапраўдны поспех!

А потым, усяго за некалькі наступных сезонаў Н.Дадзішкіліяні паспела выканаць цэнтральныя партыі ў многіх спектаклях — Еву ў "Стварэнні свету", Жызэль і Сільфіду ў аднайменных балетах, Машу ў "Шчаўкунку", Адэту-Адылію ў "Лебядзіным возеры", Натальку ў "Кургане", Фрыгію ў "Спартаку", Каханую ў "Карміна Бурана". Ужо ў сваіх першых значных ролях артыстка дэманстравала валоданне багаццем выразных сродкаў танца. Выдатныя балетныя дадзеныя — вялікі крок, лёгкі паветраны скачок, наогул падоўжаныя лініі пластыкі, элегантнасць выканальніцкай манеры дазвалялі ёй упэўнена, з эмацыянальным уздымам праводзіць гэтыя партыі.

Успамінаю сваё даўняе ўражанне ад спектакля "Стварэнне свету", калі Еву ў ім танцавала Н.Дадзішкіліяні. Яе гераіня не толькі пяшчотная і жаноцкая, безабаронная і шчырая. У ёй адчуваецца вялікая ўнутраная сіла, здольнасць пераадолець усе няшчасці і нягоды, усё вытрымаць — дзеля каханага, дзеля жыцця, дзеля будучыні... Ева Натэлы Дадзішкіліяні праходзіла доўгі шлях — ад наіўнай дзяўчынкі да мудрай, сталай жанчыны. Застаўся ў памяці абразок фіналу: безабаронна-маленькая постаць Евы ў вялікай сцэнічнай прасторы, а за ёй на жывапісным задніку суровае аблічча сялянскай жанчыны, павязанай хусткай. Шчымлівае, кранаючае супастаўленне...

Вельмі ўдалымі партыямі Н.Дадзішкіліяні, так бы мовіць, ранняга перыяду яе творчасці (зрэшты, іх яна выконвае і сёння) лічацца Марыя Тальёні ў "Па-дэ-катры" і Сільфіда ў аднайменным балеце. Дзівосная ўстойлівасць у арабесках, выразныя рукі, вялікі і лёгкі скачок, натуральная грацыя перадавалі воблік М.Тальёні — выдатнай балерыны эпохі рамантызму. У "Сільфідзе" кантыленнасць танца артысткі стварала ілюзію лунання над зямлёй.

У аблічы Машы (балет "Шчаўкунок") артыстка звычайна падкрэслівала рысы дзіцячай, шчырай наіўнасці, безабароннай і крохкай жаноцкасці. Здзіўленая, спыняецца яе гераіня перад злом...

Заўсёды цікава параўноўваць розныя склады выканаўцаў у адным і тым жа спектаклі, сачыць за тым, як адметныя акцёрскія індывідуальнасці змяняюць сэнсавыя акцэнты харэаграфічнага твора. Так, у балеце "Рамэо і Джульета" галоўная гераіня ў выкананні І.Душкевіч успрымаецца больш дарослай і, магчыма, больш драматычнай. А Н.Дадзішкіліяні падкрэслівае ў сваёй Джульеце пяшчотную і далікатную ўзвышанасць унутранага свету.

У нечаканым аблічы паўстае артыстка ў балеце "Ундзіна", дзе яна выконвае партыю Беатрычэ, суперніцы галоўнай гераіні. У многіх папярэдніх спектаклях персанажы балерыны ўспрымаліся як увасабленне безабароннасці і жаноцкасці. Менавіта такія яе Джульета, Каханая ў "Карміна Бурана", Дзева-выбранніца ў "Вясне свяшчэннай". Беатрычэ — зусім іншы чалавечы тып. Знешняя прывабнасць знатнай паненкі спалучаецца ў яе аблічы з уладарнасцю, пераконаннем, што яна мае права распараджацца пачуццямі і лёсам іншага чалавека. У пачуццях Беатрычэ да Палемона няшмат сапраўднай цеплыні, а больш жадання сцвердзіць сваю волю. Рэўнасць, адчай, дакоры пакрыўджанага самалюбства, помслівасць — гэта гама пачуццяў вельмі выразна выяўляецца ў міміцы і пластыцы артысткі.

Наогул, танец Н.Дадзішкіліяні заўсёды вызначаецца пластычнай культурай, чысцінёй ліній, тонкасцю танцавальнага малюнка. Сфера, у якой найбольш натуральна выяўляецца яе талент, — гэта светлая, летуценная лірыка, увасобленая праз строгія акадэмічныя прапорцыі класічнага танца або экспрэсіўную пластыку сучаснай харэаграфіі.

Гераіні балерыны вельмі розныя — трапяткая Жызэль, гаротная Адэта, драматычная Фрыгія, летуценная Сільфіда, добрая і чулая Маша, самаадданая Джульета... Ды, відаць, інакш і не можа быць, калі ты — заслужаная артыстка, вядучы майстар сцэны, калі балету належыць увесь час, усе думкі і пачуцці. Калі ён — усё жыццё...

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

*На здымках:* У ролі Дзевы-выбранніцы ("Вясна свяшчэнная" І.Стравінскага); Натэла Дадзішкіліяні.

**Фота В.ДРАЧОВА**

# ЁН ДАПАМОГІ НЕ ЧАКАЕ...

З Мікалаем Фёдаравічам Варвашэвічам я знаёмы даўно. Не раз пісаў пра яго сцэнічныя пастаноўкі яшчэ тады, калі ён узначальваў Слонімскі народны тэатр. А два гады таму ён узяў мяне на гомельскі фестываль "Драматычнае мастацтва Беларусі — 92". "Складвай чамадан, паедзем на тыдзень у Гомель. Трэба табе дасканала ведаць сённяшнюю тэатральную сітуацыю ў Беларусі. А таксама пазнаёмлю цябе са сваімі сябрамі", — сказаў Мікалай Фёдаравіч. І мы — паехалі...

Менавіта там, у Гомелі, сярод нашых беларускіх акцёраў, рэжысёраў, драматургаў і тэатральных крытыкаў я адчуў і ўбачыў, якім вялікім аўтарытэтам і павагай карыстаецца гэты апантана ўлюбёны ў сваю справу чалавек.

Бацькоў сваіх Мікалай Варвашэвіч не памятае, іх знішчылі немцы. Выхоўвала і гадавала яго цётка ў Ленінградзе. Шмат хапанулі гора і бяды ў пасляваенным разбураным горадзе на Няве, але ўсе цяжкасці былі вытрыманы і перажыты. А ў 1957 годзе беларускі юнак (нарадзіўся ў вёсцы Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна) паступае ў Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі. З вялікай радасцю і сёння Мікалай Фёдаравіч успамінае сваіх аднакурснікаў і выкладчыкаў — рэжысёра-практыка У.Макар'ева, педагога О.Ольшыц і іншых. Пасля заканчэння інстытута маладога рэжысёра накіравалі на працу ў Калінінскі абласны тэатр (цяпер гэта горад Цвер). Першай яго самастойнай пастаноўкай быў спектакль "На бойкім месцы" А.Астроўскага, пасля былі пастаўлены іншыя спектаклі па п'есах рускіх і савецкіх драматургаў. Жывучы ў Калініне, М.Варвашэвіч вельмі хацеў вярнуцца ў родную Беларусь. Але такой мажлівасці, на жаль, не было. І вось аднойчы ён сустрэў свайго аднакласніка Эдуарда Усачова, які працаваў тады ў Горацкай беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён і прапанаваў Мікалаю Варвашэвічу вярнуцца на радзіму. З радасцю была прынята прапанова, а ў 1964 годзе наш зямляк ужо працуе дырэктарам Дома культуры ў Горках на Магілёўшчыне і адначасова ўзначальвае тэатральны калектыў сельскагаспадарчай акадэміі.



У пачатку 1968 года Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч прыехаў у горад пад Шчарай і пачаў кіраваць Слонімскім народным тэатрам. І тут яго першай самастойнай працай быў спектакль "На бойкім месцы" А.Астроўскага. "Ты пытаеш, ці ёсць у мяне любімыя спектаклі, якія я ўспамінаю і зараз? Вядома ж, ёсць. Гэта ў першую чаргу "На бойкім месцы" А.Астроўскага, "Барабаншчыца" А.Салынскага, першая пастаноўка "Паўлінкі" Янкі Купалы, "Ганка" У.Галубка... Ды дзе ж іх усе пералічыш", — гаворыць Мікалай Фёдаравіч. Так, сапраўды, спектакляў у Слоніме рэжысёрам М.Варвашэвічам было пастаўлена шмат. Але больш за ўсё мастак сцэны звяртаўся да беларускай драматургіі. Сцэнічнае жыццё ў Слоніме пабачылі п'есы "Людзі і д'яблы" К.Крапівы, "Папараць-кветка" І.Козела, "Пінская шляхта" В.Дуніна-Марцінкевіча, "Таблетку пад язык" А.Макаёнка, "Навальніца будзе" А.Звонака і дзесяткі іншых твораў. Самы вялікі поспех тады меў спектакль "Паўлінка". У 1969 годзе газета "Літаратура і мастацтва" пісала: "Рэжысёр М.Варвашэвіч паказаў сябе ў гэтай пастаноўцы не толькі ўдумлівым інтэрпрэтатарам п'есы, а і добрым настаўнікам самадзейных артыстаў". З "Паўлінкай" народны тэатр гастраляваў у Літве, Латвіі, Эстоніі, Расіі.

Вядома ж, былі тады ў рэпертуары народнага тэатра і п'есы ўкраінскіх і рускіх драматургаў. Папулярнасцю ў гледачоў карысталіся спектаклі "Запомніце іх імёны" П.Салюка, "Дзіўны доктар" А.Сафронава, "Васа Жалязнова" М.Горкага і многія іншыя. Той жа "ЛіМ" пра пастаноўку "Дзіўны доктар" у 1973 годзе пісаў, што "рэжысёр Мікалай Варвашэвіч і акцёры стварылі спектакль, аб якім з пэўным правам можна гаварыць як

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ ЛЮБІЦЬ КУПАЛУ І "БІТЛЗ"

Так ужо ў нас, славян, павялося, што і за святочным сталом, і дзе-небудзь на адпачынку мы не можам абысціся без таго, каб не пагаварыць аб палітыцы, цэнах, сур'ёзных справах. А калі перад вамі субяседнік, як кажуць, з галавой аддады сваёй працы, размова міжволі зноў і зноў вяртаецца да яе. Так атрымалася і падчас маёй сустрэчы з дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы Жанай Казіміраўнай Дапкюнас, тым больш што размова адбылася ў яе службовым кабінеце. Мэтай "візіту" было стварэнне артыкула пра яе накшталт творчага партрэта. Кагосьці гэта можа здзівіць — ну, хай сабе, актрыса ці мастак, а тут — дырэктар...



Так ужо распарадзіўся лёс, што амаль трыццаць два гады таму прыйшла гэта жанчына ў музей на часовую працу зусім яшчэ дзяўчынкай — выпускніцай філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, так і засталася тут па сённяшні час. Прыйшла, зразумела ж, не на дырэктарскую пасаду. Да таго ж, і Купала быў для яе не толькі любімы паэт. Жана Казіміраўна даводзіцца яму ўнучатай пляменніцай. Жонка Купалы — Уладзіслава Францаўна — паклала шмат намаганняў, каб стварыць гэты музей, і вельмі жадала бачыць тут у якасці супрацоўнікаў людзей неабыякавых да творчасці і лёсу пісьменніка. А хто ж яшчэ, як не родны чалавек, зможа аддаць гэтай справе ўсю сваю душу? І, як паказаў час, яна не памылілася. Але ж маленькая дзяўчынка, якую зараз з павагай называюць Жанай Казіміраўнай, зрабіла свой выбар яшчэ раней, калі вучылася іграць на піяніна, і яе старэнькая настаўніца па музыцы бачыла ў сваёй вучаніцы вялікія здольнасці. Музыка адышла на другі план. А потым і само жыццё прымусіла пайсці працаваць — сыну тады споўнілася толькі паўтара месяца. На стыпендыю мужа, які ў той час вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце, сям'ю не пракорміш. Свайго — нічога. Праз два гады нарадзіўся другі сын — Ігар. Дырэктарам стала значна пазней — у 86-м. Дапамагла "перабудова". Каб заняць гэтую пасаду, партыйны білет стаў неабавязковым, лепш сталі ставіцца і да жанчын— кіраўнікоў.

— Ведаеце, я ні аб чым не шкадую, — гаворыць Жана Казіміраўна, — і што па музыцы далей не пайшла, і што тут апынулася. А музыку заўсёды любіла і люблю. Магу і зараз, пад настрой, нешта такое выканаць. І, лічу, на прыстойным узроўні. Дарэчы, праца ў музеі таксама дае вялікія падставы для творчасці. Каб гэтага не было, я б тут і не працавала столькі гадоў. Хацця, відаць, усё залежыць ад чалавека. Я думаю, напрыклад, што каб мне давялося быць звычайнай прыбіральшчыцай, то і да гэтай немудрагелістай справы знайшла б творчы падыход.

Вяртаючыся да размовы пра музыку, скажу, што быў шчыра здзіўлены, калі мая субяседніца прызналася ў любві да... групы "Бітлз". Між іншым, раней яна і сама не магла зразумець старэйшага сына Андрэя, які так захапляўся ліверпульскай чацвёркай. А потым услухалася і сама захапілася — вельмі духоўная музыка!

— А вось мой шасцігадовы ўнук Аляксей, як гэта ні дзіўна, захапляецца аўтэнтычным фальклорам. Яму гэта цікава. Дарэчы, вельмі люблю з ім пагаварыць, паназіраць за ім. Відаць, праўду кажуць, што свае дзеці — гэта лялькі, а ўнукі — ужо сапраўдныя дзеці.

Такая вось яна — дырэктар купалаўскага музея. Упэўненая ў сабе, лагодная і вельмі абаяльная жанчына. Пра такіх звычайна кажуць — яна з тых людзей, у якіх усё, за што бяруцца, абавязкова атрымліваецца. Але ж за гэтым — вялікая, нябачная чужому воку праца, якая звычайна працягваецца і па-за межамі службовага кабінета — пасля хатніх спраў, калі ўжо і тэлевізар нічога не паказвае. Усё з-за тых жа спраў нават на дачу гэтым летам ні разу не зазірнула.

А колькі яшчэ не зроблена! Трэба не толькі паступова аднаўляць экспазіцыю, але ж і паклапаціцца аб самім музейным будынку, які за трыццаць чатыры гады існавання ніколі капітальна не рамантаваўся. Цеплясеткі ў аварыйным стане. Да таго ж, у будучым годзе — 50-годдзе стварэння самога музея. Таксама трэба як след падрыхтавацца. Акрамя таго, даўно наспела неабходнасць у прыбудове да музея. Як цудоўны макет пакуль пыліцца на дырэктарскай шафе. Трэба шукаць фундатараў...

Зараз у музеі складаецца падрабязны каталог рукапіснага і выяўленчага фондаў — гэта ўжо чыста навуковая праца. Ёсць у дырэктара і такая прыгожая мара, каб мясціны, дзе знаходзіцца філіял музея "Акопы" на Лагойшчыне, былі абвешчаны купалаўскім мемарыяльным заказнікам. Такія мясціны! Менавіта там, у вёсцы Харужанцы, ва ўсю моц раскрыўся купалаўскі талент, напісаны звыш сямідзесяці твораў, у тым ліку — "Тутэйшыя", "Паўлінка". Не дайшлі рукі пакуль і да стварэння чацвёртага філіяла — у вёсцы Яхімаўшчына пад Маладзечнам. "Нешта робяць мясцовыя ўлады, але ж, што тычыцца Купалы, то шанаванне яго памяці павінна быць на самым высокім узроўні", — лічыць Жана Казіміраўна. Нават пры стварэнні юбілейных медалёў яна не шкадавала ні сіл, ні часу, каб усё атрымалася як мае быць.

— Па-іншаму зараз спрабуем праводзіць экскурсіі, арганізуем выезды на прадпрыемствы, у ПТВ, — расказвае дырэктар. — Доўгія гады Купала падаваўся вельмі абмежавана. Мы ставім задачу не толькі расказаць пра яго жыццёвы шлях і творчасць, але яшчэ данесці да людзей яго думкі, імкненні. Каб людзі прапусцілі іх праз сябе, праз сваё сэрца. Каб для кожнага, хто жыве на Беларусі, нават калі ён і не беларус, стала, як і для Купалы, гэтая краіна і беларуская мова непадзельнай часткай душы. Калі ў чалавека абудзіць шчырыя пачуцці, узнёслыя думкі, высакародныя мэты, дык ён і сам захоча перачытаць Купалу, і не зможа быць абыякавым да яго слоў. Вазьміце, напрыклад, верш "Перад будучыняй", ён быў напісаны ў 1922 годзе, а здаецца, што сёння.

Напрыканцы нашай бяседы, Жана Казіміраўна разгарнула кнігу "Жыве Беларусь", папрасіўшы: "Хай лепей яшчэ раз людзі пачытаюць Купалу, чым пра мяне". І стала чытаць радкі з купалаўскага верша:

*"Стаім мы перад будучыняй нашай*
*І ўсё варожым, сочым ёйны ход...*
*Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы,*
*звяўшы,*
*Каб выйсці ў свет, як нейкі*
*здольны род...*
*Сягоння мы жывем і ўдзень*
*мы блудзім*
*Пад маскай, асляпляючай нас,*
*І што сказаць самім сабе і людзям,*
*Не ведаем, не можам, хоць і час.*
*Засціґнуты, задушаны, як мышы*
*Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,*
*Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы*
*Таго свайго, што наша ад вякоў".*

**Віктар КУКЛОЎ (БЕЛІНФАРМ), спецыяльна для газеты "Культура"**

**ВАЧЫМА СУСЕДЗЯЎ**

# ЯК У КАДРЫ СТАРОГА ФІЛЬМА...

Час затрымаўся на Беларусі ўжо даўно. Як у кадры старога фільма, тут можна адшукаць фрагменты старой эпохі: манументальны помнік Леніну перад гмахам Дома ўрада, серп і молат на віньетках дзяржаўных газет, старыя заяцганыя стандартныя прапагандысцкія фразы на сценах.

Нават "самы заслужаны чэкіст" задумена пагладае са свайго нядаўна адрамантаванага цокаля на будынак, што стаіць на процілеглым баку вуліцы. Нягледзячы на тое, што няма на ім ніводнай інфармацыйнай таблічкі, жыхары Мінска ведаюць яго добра. Гэта адна з самых высокіх пабудоў у горадзе. З ягоных вокнаў можна ўбачыць снягі Сібіры — жартуе прахожы.

Беларусь засталася адзінай краінай, што з'явілася на месцы былога СССР, дзе дагэтуль не расфармаваны савецкі КДБ.

Таму што — як сцвярджае большасць парламентарыяў — "гэта такая добрая назва, з якой столькі звязана". Зрэшты, самі дэпутаты Вярхоўнага Савета з'яўляюцца часткай гэтага скансэну. Выбраныя з часоў Савецкага Саюза ў 1990 годзе, яны пільна сцерагуць сваю незалежную ўжо краіну ад занадта радыкальных змен. Прыхільнікі рэформаў могуць, такім чынам, разлічваць у парламенце ўсяго толькі на 70 галасоў з 340.



Тым часам, брак прарэформатарскіх дзеянняў папярэдняга ўрада суправаджаўся далейшым спадам вытворчасці. На Беларусі цяжка знайсці прыватныя крамы альбо рэстарацыі: нічога дзіўнага, дасюль прыватызавана каля 7 працэнтаў дзяржмаёмасці. Афіцыйныя дадзеныя сведчаць аб 60 тысячах беспрацоўных.

Кульгае таксама міжнародны гандаль. Нягледзячы на тое, што на Беларусі зарэгістравана больш за тысячу кампаній з замежным капіталам або тыпу joint venture, на самой справе толькі трэцяя частка з іх вядзе фактычную дзейнасць. Большасць чакае больш спрыяльнага інвестыцыйнага клімату.

"Ведаючы, што крытыкуюць нас за марудныя тэмпы рэформаў, мы тым не менш кіруемся прынцыпам вучыцца на чужых памылках. Таму сочым за эксперыментам у Расіі, краінах Балтыі і робім адпаведныя высновы", — гавораць дзяржаўныя чыноўнікі.

Арганізаваныя праз гданьскую "Тэкстым" таргі прыцягнулі ў Мінск шмат удзельнікаў з усёй Польшчы. "У выніку падпісаны кантракты на дзесяткі тысяч долараў. Калі здолеем рэалізаваць хоць бы 10 працэнтаў з іх, прыедзем сюды яшчэ. Можа, нават адкрыем філіялы", — сказаў прадстаўнік тэкстыльнай фірмы з Лодзі.

Прадпрыемствы, не толькі польскія, спыняе перш за ўсё карупцыя. "Для разліку выдаткаў варта ўвесці дадатковыя графы: адну — хабар для чыноўнікаў, другую — хабар для мафіі", — растлумачыла маладая беларуская менеджэрка, якая ўзначальвае фірму joint venture.

"У нашай гаспадарцы дзейнічае закон джунгляў, а людзі дэзарыентаваныя, і патрабуецца час, каб развітацца з мінулым".

**Па матэрыялах польскага часопіса "Wprost" ("Насупраць")**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА
Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ
Рэдкалегія: А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ
Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Адрас рэдакцыі: 220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.